*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

**№10 лістапад 2011**

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

*Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь*

## Кіраўнік Праваабарончага Цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі асуджаны на чатыры з паловай гады зняволення з канфіскацыяй маёмасці.



*Алесь Бяляцкі*

***Такі прысуд вынес 24 лістапада кіраўніку Праваабарончага Цэнтра «Вясна» суддзя Сяргей Бандарэнка. Праваабаронца прызнаны вінаватым у нявыплаце падаткаў у асабліва буйным памеры. Хоць грошы, якія паступалі на замежныя рахункі Алеся Бяляцкага не даваліся на асабістыя паірэбы праваабаронцы, а выкарыстоўваліся для аказання дапамогі палітрэпрэсаваным ў Беларусі. Таму і беларускія, і замежныя праваабаронцы і іншыя ўплывовыя асобы ды арганізацыі лічаць такі прысуд расправай з палітычным апанентам і помстай за яго дзейнасць.***

# Слова адвакату



У судзе над Алесем Бяляцкім выступіў яго адвакат Дзмітрый Лаеўскі. ¨н сказаў, што няма дадзеных у абвінавачання, хто, колькі і ў якія тэрміны, ды на якія канкрэтна мэты пералічваў грошы на 2 замежных рахункі Бяляцкага.

Адвакат: Мы не пачулі, адкуль узяліся лічбы атрыманых Бяляцкім сродкаў. І няма доказаў, што было наўмыснае ўхіленне ад падаткаў. Дакладна следствам устаноўлена, што ён мае два рахункі за мяжой і што на іх паступалі нейкія сродкі. Усё астатняе не даказана, а з'яўляецца толькі меркаваннем следства. Не даказана, што сродкі з замежных рахункаў паступілі ў Беларусь. Бяляцкі іх не перавозіў праз мяжу, а таму грошы не могуць лічыцца замежнай бязвыплатнай дапамогай і не абкладаюцца падаткамі.

Адвакат сказаў, што сродкі, якія пералічваліся на рахункі Бяляцкага, прызначаліся не яму. Таму яны не былі яго прыбыткам і не абкладаюцца падаходным падаткам, не пазначаюцца ў падаткавых дэкларацыях.

Следства наўмысна не выканала просьбу абароны і не звярнулася ў міжнародныя арганізацыі, што пералічвалі грошы, каб даведацца, на якія мэты грошы былі выдаткаваныя і ці задаволеныя яны іх выкарыстаннем. Бо такія дакументы, на погляд адваката, цалкам апраўдвалі б Бяляцкага. Таму абвінавачванню гэта нявыгадна. Узнікае пытанне: хто і што хацеў падчас следства даказаць?

# Заклік тэрмінова вызваліць і рэабілітаваць Алеся Бяляцкага

**Мы, ніжэйпадпісаныя 64 арганізацыі па правах чалавека, члены і партнёры Сеткі Дамоў правоў чалавека, рашуча асуджаем вырак суду, згодна з якім Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Мы заклікаем беларускія ўлады неадкладна зняць усе абвінавачванні супраць Алеся Бяляцкага і спыніць яго крымінальны пераслед.**

**25-га лістапада 2011 г., Беларускі ДПЧ**

У чацвер 24 лістапада 2011 году, Першамайскі раённы суд г. Мінска абвясціў сваё рашэнне асудзіць Алеся Бяляцкага, якога абвінавачвалі ва ўхіленні ад выплаты падаткаў, да 4,5 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй ўсёй яго маёмасці, у тым ліку маёмасці, што зарэгістравана на іншых асобаў і належаць іншым асобам.




Алесь Бяляцкі з'яўляецца старшынём Праваабарончага цэнтра "Вясна", віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі па правах чалавека (FIDH) і адным з заснавальнікаў Беларускага Дома правоў чалавека ў Вільні. ¨н добра вядомы і прызнаны на міжнародным узроўні прааваабаронца.

4 жніўня 2011 года Алесь Бяляцкі быў затрыманы ў Мінску па падазрэнні ва "ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры". Працэс над ім пачаўся 2 лістапада і быў асуджаны міжнароднай супольнасцю.

Тая сітуацыя, што склалася з Алесем Бяляцкмі прыцягнула ўвагу і выклікала заклапочанасць міжнароднай грамадскасці на вышэйшым узроўні. 23 лістапада Кэтрын Эштан, Вярхоўны прадстаўнік Еўрапейскага Звязу па знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі і віцэ-прэзідэнт Камісіі, і Штэфан Фюле, еўракамісар па палітыцы еўрапейскага суседства, выказалі шкадаванне з нагоды суровых абвінавачванняў у дачыненні да Алеся Бяляцкага і заявілі, што лічаць суд над Бяляцкім палітычна матываваным. "Гэты судовы працэс накіраваны супраць Алеся Бяляцкага і Праваабарончага цэнтру "Вясна", з мэтай перашкодзіць іх адданай працы па падтрымцы ахвяр рэпрэсій у Беларусі. Гэта з'яўляецца відавочным праяўленнем той хвалі рэпрэсій супраць грамадзянскай супольнасці ў краіне, якая пачалася 19 снежня пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года”.

У сумеснай заяве ад 24 Лістапада 2011, тры спецдакладчыкі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый папярэдзілі, што новыя заканадаўчыя папраўкі, нядаўна прынятыя Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь, могуць сур'ёзна і беспадстаўна абмежаваць права на свабоду мірных сходаў, аб'яднанняў і выказвання меркаванняў, і парушыць нормы міжнароднага права.

Мы лічым, што Алесь Бяляцкі быў пакараны за свой законны ўдзелу ў справе абароны правоў чалавека ў Беларусі. Пазоў супраць Алеся Бяляцкага - гэта яшчэ адзін крок беларускіх уладаў супраць праваабаронцаў, каб паспрабаваць прымусіць замаўчаць галасы, якія нагадваюць пра абавязацельствы Беларусі ў галіне правоў чалавека.

Мы лічым затрыманне Алеся Бяляцкага беспадстаўным, заклікаем да яго неадкладнага і безумоўнага вызвалення, і ўсе абвінавачванні супраць яго павінны быць знятыя.

# Гонар беларусаў

***“Праваабарончай дзейнасцю, і наогул грамадскай дзейнасцю, я займаюся практычна ўсё маё жыццё. Пры такой кепскай сітуацыі, якая склалася ў краіне перманентна на працягу апошніх гадоў, натуральна, што крымінальны пераслед мог пачацца ў любую хвіліну, у кожны год. І тое, што магло адбыцца – адбылося. Таму я не шкадую ні аб адным сваім кроку, зробленым за гэтыя 30 гадоў у плане абароны дэмакратыі, правоў чалавека ў Беларусі. Я гэта рабіў свядома”.***

Такімі словамі закончыў сваю прамову ў судзе вядомы ў Беларусі і ва ўсім цывілізаваным свеце беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі. ¨н сам назваў сваю прамову і выступ свайго адваката лямантам адзінокага ў пустыні. Праваабаронца не сумняваўся, што прысуд па ім ужо даўно вынесены. І нічога не зменяць ні довады абароны, ні ягоныя тлумачэнні. Таму ён прамаўляў не для іх, хто яго асуджваў, а для тых, у чыёй змозе яшчэ адстойваць агульначалавечыя ідэалы, еўрапейскія каштоўнасці і змагацца за незалежнасць і будучыню свабоднай дэмакратычнай Беларусі, у якой правы чалавека будуць шанаваць і бараніць не толькі грамадскія праваабаронцы, але і дзяржаўныя інстытуты.

Да гэтага выступаў адвакат, які раіў звярнуць увагу не толькі на поўную адсутнасць доказаў віны, але і на постаць абвінавачваемага, якога двойчы наміноўвалі на Нобелеўскую прэмію Міру, які атрымаў шматлікія прэстыжныя прэміі ды ўзнагароды. Яму давяралі аднадумцы і паплечнікі на Радзіме і за яе межамі кіруючыя пасады, як доказ прыстойнасці, чэснасці ды бескарыснасці гэтага чалавека. Яго, нашага суайчынніка, абралі ганаровым грамадзянінам італійскага гораду Генуя. І яшчэ мноства ўсяго, што падштурхоўвала кожнага патрыёта ганарыцца такім суайчыннікам, як Алесь Бяляцкі.

Чатыры з паловай гады калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Такі быў вырак суда. Беларускага літаратара, дысідэнта, праваабаронцу, змагара за праўду асудзілі ў судзе з назвай Маскоўскі. ¨сць нейкі сімвалізм у гэтым. Яго, беларускамоўнага патрыёта судзілі па-руску, хоць той і патрабаваў весці працэс на роднай мове. Ды хіба не знайшлося па ўсёй Беларусі аніводнага суддзі, аніводнага пракурора, і ні адной сакратаркі, якія б ведалі нашу мову, і якіх можна было б дапусціць да гэтага працэсу. І гэтым сказана ўсё. І пра сітуацыю ў краіне ў цэлым, і пра сістэму, і канкрэтна пра гэты працэс.



А вось асуджаныя ўсё часцей беларускамоўныя. Тым больш цынічнымі і бязлітаснымі выглядаюць выракі над імі.

Калі сядзіш у судовай залі, дзе абвінавачваемы гаворыць па нашаму, а ўсё людзі ў мундзірах розных колераў, з празнымі пагонамі, і тыя хто ахоўвае абвінавачваемага, і тыя хто мусіць забяспечыць парадак, і тыя хто абвінавачвае, гавораць па іншаму, не пакідае ўражанне поўнай акупацыі. Гэтае пачуццё з’яўляецца адразу як падыходзіш да будынку суда. Міліцыя не толькі правярае і перапісвае дакументы кожнага, хто хоча патрапіць на гэты працэс, але і аглядае кішэні, залазіць пад вопратку, не прапускае людзей з сімволікай і ў непажаданай на іх думку вопратцы. Не дазваляюць зайсці у майцы з партрэтам Алеся Бяляцкага. І ўвогуле мець пры сабе партрэт Алеся і ў папяровым выглядзе. Пасля яшчэ адзін кантроль. Пасля здымаюць на камеру. І зноў перапісваюць. А ля будынку суда стаіць аўтазак. А самога абвінавачваемага прывозяць з уключанымі мігалкамі.

І таму справу над Алесем Бяляцкім назвалі палітычна матываванай не толькі ён і яго адвакат ды паплечнікі. Па ўсім цывілізаваным свеце, на ўсіх роўнях, пракацілася хваля з патрабаваннямі вызвалення беларускага праваабаронцы. І гэтая хваля нарастае. А ён, з сваёй спакойнай усмешкай, проста і даходліва патлумачыў сэнс свайго змагання: “…мы паказваем, што ў Беларусі ёсць нармальныя людзі, людзі, якія разумеюць, што такое правы чалавека, што такое дэмакратыя. І ў будучыні, я думаю, ніхто не зможа сказаць, што ў гэтыя складаныя для Беларусі часы ніхто ў краіне нічога не рабіў. Я мяркую, што мы шмат у чым ратуем гонар беларусаў на сённяшні дзень і надалей будзем рабіць гэта ў любых умовах, дзе б мы ні знаходзіліся – на волі або ў турме ".

***Віктар Сазонаў***

# Хроніка правапарушэньняў і перасьледу грамадска-палітычных актывістаў Гарадзеншчыны (лістапад)

**7 лістапада.** Узнавілася крымінальная справа супраць намесьніка старшыні гарадзенскай суполкі партыі Беларускі Народны Фронт Максіма Губарэвіча, якога падазраюць ва ўчыненьні хуліганства. Пра тое, што справа была прыпыненая, яму сьледчыя органы не паведамлялі, але зь Менску прыйшоў ліст, з якога сьведчыць, што справа ізноў разглядаецца.

**Лістапад.** У Гародні руйнуюцца будынкі другой паловы 20-ых гадоў мінулага стагоддзя. Выконваюць разбор будынкаў будаўнікі ў рабочым адзеньні з лагатыпамі "Гроднажылбуд". Праца вядзецца па вуліцы Сьвярдлова, гэты гістарычны раён калісьці меў назву "Калонія Ужондніча".

**9 лістапада.** Улады працягваюць палітычны перасьлед грамадскага актывіста з Варнянаў Мікалая Уласевіча, аднога з ініцыятараў грамадскай кампаніі "Астравецкая атамная – гэта злачынства". У Ашмянах над ім пачаўся чарговы судовы працэс. Яшчэ перад яго пачаткам Мікалай Уласевіч зрабіў заяву ў якой адзначае сапраўдныя прычыны і характар гэтай грамадзянскай справы. Стартавай прычынай працэсу стала скарга Уласевіча, якую ён падаў яшчэ ў красавіку бягучага году на шматразовыя злоўжываньні службовымі паўнамоцтвамі старшыні Астравецкага райвыканкаму Адама Кавалько. Скарга была накіравана ў Генеральную пракуратуру і Савет Бясьпекі пры прэзідэнце. Вынікам стала тое, што адзін з фігурантаў скаргі па фактах парушэньня заканадаўства, індывідуальны прадпрымальнік Андрэй Дзятко, які на думку Уласевіча неаднаразова атрымліваў прэферэнцыі ад галоўнага "вертыкальшчыка" раёну, падаў на грамадскага праваабаронца ў мясцовы суд. Справа мусіла разглядацца ў Астравецкім раённым судзе, але нечакана была перанесена ў Ашмянскі. Разгляд справы ўрэшце перанесены.

Супрацоўнікі гарадзенскай міліцыі патрабуюць ад журналіста і грамадскага праваабаронца Уладзіміра Хільмановіча зьявіцца ў мясцовае аддзяленьне міліцыі і здаць адбіткі пальцаў. **9 лістапада** яму было заяўлена пра гэта праз хатні тэлефон. Па словах прадстаўніка міліцыі Хільмановіч адзін зь нямногіх жыхароў гораду над Нёманам, хто дагэтуль не прайшоў абавязковую працэдуру дактыласкапіі. Грамадскі праваабаронца лічыць, што дзейснае заканадаўства пра дактыласкапію не ўстанаўлівае,



што ваеннаабавязаныя грамадзяне мусяць прайсьці працэдуру да пэўнай даты, па-другое дагэтуль не прыведзены ў адпаведнасьць усе нарматыўныя акты паміж МУС і Міністэрствам абароны, якія рэгулююць працэс здаваньня адбіткаў пальцаў.

**9 лістапада** ў доме грамадскага праваабаронца Мікалая Уласевіча, які пражывае ў мястэчку Варняны Астравецкага раёну, адбыўсяператрус. Сам грамадскі актывіст у гэты час быў у ад'езьдзе, дома была толькі жонка. Каля 16 гадзін дня ў дом Уласевіча заявіліся міліцыянты, якія правялі ні то вобыск, ні то дагляд жылога дома. Пры тым прыйшоўшыя адчынялі шафы і вялі відэаздымку пакояў памяшканьня. Нічога забрана не было, ніякіх афіцыйных папераў службовымі асобамі не пакінута таксама.

**10 лістапада** абласны суд разгледзеў скаргу слонімскага грамадскага актывіста Алеся Масюка за 10 секунд. Менавіта столькі спатрэбілася часу суддзю абласнога суду Мікалаю Рачынскаму, каб паведаміць пра тое, што скарга слонімскага грамадскага актывіста Алеся Масюка на пастанову Слонімскага раённага суду пакідаецца без задавальненьня. Напомнім, што 12 кастрычніка суддзя Слонімскага раённага суду Тамара Хамінец аштрафавала сябра БХД Масюка на пяць базавых велічыняў нібыта за правапарушэньне паводле артыкулу 23.34 КААП. Актывіста аштрафавалі за ўдзел у Народным сходзе, які прайшоў у Слоніме **8 кастрычніка**.

Бліжэй да вечара **10 лістапада** ў кватэры падазраванага па крымінальнай справе сябра сойму Партыі БНФ гарадзенца Максіма Губарэвіча, дзе ён прапісаны ў бацькоў, быў праведзеныператрус. Самога Максіма ў гэты час дома не было. Пакуль ён прыехаў,ператрус фактычна закончыўся.

У час "Народнага сходу" **12 лістапада** ў Лідзе зноў быў затрыманы журналіст "Белсату" Сяргей Карпенка. Разам зь ім міліцыянты завезьлі ў пастарунак і грамадскага актывіста Станіслава Карабана. 3 гадзіны іх трымалі, нібыта высьвятляючы асобы. Затрыманым казалі пра тое, што нейкія невядомыя падпалілі дзьверы ў будынку мясцовага Дома палякаў і Карпенка з Карабанам мусяць даць свае тлумачэньні па гэтым факце. Пазьней высьветлілася, што дзьверы ў Доме палякаў спрабавалі падпаліць дзень ці два таму – так сказалі вартаўніцы будынку. У Карпенкі таксама хацелі забраць відэакамеру. З словаў Карпенкі вынікае – было відавочным, што міліцыянты выконвалі чыйсьці загад. Журналіста "Белсату" цягам бягучага году затрымлівалі ўжо неаднаразова, а мясцовы пракурор палохаў яго крымінальнай справай.

**14 лістапада** ў Мінску нарэшце адбылася вочная стаўка аднаго з падазраваных паводле крымі-

# *Хроніка праваапарушэньняў і перасьледу грамадска-палітычных актывістаў Гарадзеншчыны (лістапад)*

нальнай справы за хуліганства з боку трох прадстаўнікоў Партыі БНФ, гарадзенца Максіма Губарэвіча з сьведкай нібыта зьбіваньня ахоўніка будынку, дзе месьціўся офіс Партыі БНФ. Па-сутнасьці вочная стаўка яшчэ раз пацьвердзіла невінаватасьць Губарэвіча.

Карэліцкая пракуратура парушае заканадаўства. Сябра слонімскай суполкі Партыі БНФ Іван Шэга так і не атрымаў у вызначаны законам месяцавы тэрмін адказу з пракуратуры Карэліцкага раёну на сваю скаргу, якую ён накіраваў туды **9-га кастрычніка**. Прычынай напісання скаргі стала затрыманьне яго **8 кастрычніка** на ўласным аўтамабілі, калі актывіст ехаў з Слоніма ў Менск. Па трасе на тэрыторыі Карэліцкага раёну яго спынілі міліцыянты і загадалі ехаць у Карэлічы ў мясцовы РАУС.

Гарадзенскія суды трывала ўзялі на ўзбраеньне новую тактыку – завочна зьдзяйсьняць прысуды па адміністрацыйных справах, а потым цягнуць з высыланьнем копій пастановаў, каб асуджаныя не мелі нават тэарэтычнай мажлівасьці абскардзіць прысуд. У гэтым пераканаліся прадстаўнікі Маладога фронту Алесь Кіркевіч і Вераніка Велігор. Алесь Кіркевіч атрымаў праз пошту копію пастановы суду, які адбыўся **27 кастрычніка.** Копія ж, як сьведчыць штамп, была выслана ажно праз 2 тыдні – **11 лістапада**. Выявілася, што суддзя Віталь Ляцко завочна засудзіў Кіркевіча да 45 базавых велічынь штрафу (1 575 000 рублёў), а Велігор да 25 базавых велічынь (875 000 рублёў). Пры тым у пастанове чамусьці сказана, што Кіркевіч і Велігор двойчы выклікаліся ў суд, але не зьяўляліся, а таксама "подвергались принудительному приводу в суд. Из рапортов милиции явствует, что осуществить привод не представилось возможным". Насамрэч ніхто не выклікаў актывістаў у суд, а прыведзеная цытата з пастановы проста абсурдная. Напомнім, што Алесь Кіркевіч і Вераніка Велігор былі затрыманыя ў ноч на **17 верасьня** у час распаўсюду інфармацыйных матэрыялаў да грамадзянскай акцыі 21 верасьня.

**26 лістапада** машыну гарадзенскага праваабаронцы Віктара Сазонава спынілі супрацоўнікі ДАІ. Яны патлумачылі, што праваабаронца неяк не так ехаў, не ўключаў паваротаў. Нейкі час яны правяралі дакументы і візуальна рабілі праверку на ўжываньне алкаголю. Калі ўсё аказалася ў норме, то супрацоўнікі ДАІ заявілі, што Віктар Сазонаў мусіць праехаць у Ленінскі РАУС Гародні, каб там праверыць рэчы, якія ёсьць у машыне. Тымі рэчамі аказалася рэкламная прадукцыя Беларускага Радыё Рацыя. Міліцыянты склалі пратакол, доўга дапытвалі дзе Віктар Сазонаў узяў гэтую прадукцыю, куды яе вёз і ці ёсьць ён сябрам якіх-небудзь палітычных структур. Пасьля таго, як высьветлілі, што рэкламную прадукцыю Радыё Рацыя праваабаронца атрымаў ад звычайнага знаёмага, які едучы з Польшчы проста ўзяў яе для навагодніх падарункаў, Віктар Сазонаў быў адпушчаны. Супрацоўнікі міліцыі забралі кашулькі, каляндарыкі і іншую рэкламную прадукцыю Радыё Рацыя на нейкую праверку.



Сяргей Трафімчык, грамадска-палітычны актывіст з Бярозаўкі Лідскага раёну, атрымаў адпіску на сваю скаргу, якую ён падаваў у абласную пракуратуру на дзеяньні мастоўскай міліцыі. Пракуратура пераслала гэтую скаргу ў Гарадзенскае абласное упраўленьне ўнутраных спраў. Адтуль Трафімчыку паведамляюць, што разгляд яго пытаньня падоўжаны да 7 сьнежня. Напомнім, што **7 кастрычніка** рэгіянальны лідар па надуманай падставе (нібыта крадзеж грошай у адной з вёсак Мастоўшчыны) быў затрыманы супрацоўнікамі ДАІ ў Мастах, куды ехаў да свайго сябра. Міліцыянты паводле санкцыі раённага пракурора (на якой, аднак, не было ні пячаткі, ні подпісу пракурора) правялі агляд машыны, з якой забралі на экспертызу нэтбук, стос газет "Новы час", а таксама некаторыя рэкламныя матэрыялы іншых незалежных медый - Радыё Рацыя і Белсату. Машыну ў Трафімчыка таксама забралі, прычым на нявызначаны час і без усялякага тлумачэньня прычынаў. Сяргей Трафімчык такое зацягваньне разгляду яго пытаньня лічыць абсалютна нематываваным, яго абурае таксама той факт, што пракуратура адмовілася даць ацэнку незаконным дзеяньням мастоўскай міліцыі і папросту "адфутболіла" скаргу, у якой былі пералічаны канкрэтныя парушэньні заканадаўства.

Слонімскі райвыканкам не дазволіў пікет у падтрымку Алеся Бяляцкага па той прычыне, што чыноўнікі не ведаюць месцаў, вызначаных для правядзеньня масавых мерапрыемстваў. Гэта вынікае з адказу старшыні Слонімскага райвыканкама Іосіфа Паўлюкевіча на заяўку на пікет, пададзеную Іванам Шэгам. Сёлета ў верасьні райвыканкам прыняў новае рашэньне аб месцах правядзеньня масавых мерапрыемстваў – і такім месцам вызначаны гарадскі парк на Опернай вуліцы. Пра гэта паведамляў і "Слонімскі веснік" у нумары ад **28 верасьня 2011** году. І менавіта гэтае месца ўказаў Іван Шэга ў сваёй заяве на пікет. Атрымліваецца, што адмовіць слонімцу ў правядзеньні пікета райвыканкам падставаў не меў.

# Пайшлі Еўрасаюзам

**Не цікавіць свет Беларусь. Як бы нам не балела, што б тут не адбывалася – не цікавіць і ўсё. Улучаеш найбольш папулярны кантынентальны тэлеканал “Euronews” і ні слова там не чуеш пра нашу краіну: ні пра суд над віцэ-прэзідэнтам міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесем Бяляцкага, ні пра турэмныя здзекі над нядаўнімі кандыдатамі ў прэзідэнты дзяржавы пад назвай Рэспубліка Беларусь Андрэем Саннікавым і Міколам Статкевічам, а таксама іншымі палітычнымі вязнямі, ні пра працэс маладых хлопцаў, падазраваных у здзяйсненні тэрарыстычнага выбуху ў мінскім метро, якіх як найхутчэй, нягледзячы на нікчэмную доказную базу, хочуць асудзіць і расстраляць.**

Нічога гэта еўрапейскі свет не цікавіць. Пасля 19 снежня, калі гвалтоўна было задушана права беларускіх грамадзян на выбар прэзідэнта, Еўрасаюз зрабіў шэраг заяваў, пашырыў спіс неўязных на сваю тэрыторыю адыёзных чыноўнікаў і суддзяў і на гэтым закрыў “беларускае пытанне”. Насамрэч Беларусь надзвычай цікавіць і бліжэйшых суседзяў і галоўныя краіны Еўрасаюзу. Бо як можа геапалітычна не цікавіць трынаццатая па велічыні тэрыторыі дзяржава кантыненту?! Толькі цікавасць гэтая ў адным кірунку – прагматычным, карыслівым, выгодным. Адсюль і нарадзілася такая крывадушная з’ява як “рэал-палітыка”.

Грамадзянская супольнасць Беларусі (я перакананы, што яна спакваля ўсё ж фармуецца, нягледзячы на жорсткі адміністрацыйны ціск і рэпрэсіі) пакрысе пачынае разумець фальшывую палітыку еўрапейскіх структураў у дачыненні да Беларусі. Колькі ўжо было сказана гучных словаў пра салідарнасць з дэмакратычнымі сіламі, пра не падтрымку ўладных структураў, пра паслядоўнасць агульнай пазіцыі. Насамрэч уся гэтая слоўная мішура разбіваецца аб логіку лічбаў і фактаў. Прыкладам, тавараабарот дзяржавы Беларусь з Еўрасаюзам з студзеня па верасень бягучага году вырас ажно на 76 адсоткаў. Ці не яскравы паказнік? Еўропа глядзіць на Беларусь найперш з гледзішча стасункаў з Расеяй. З Крамлём жа, як лічаць брусельскія еўракамісары, у іх адбылася паспяховая “перазагрузка”. Замілоўваюць проста гэтыя тэрміны. І тое, як маскоўскія фанабэрыстыя тандэмакраты вядуць дыялог з кіраўніцтвам еўрапейскіх краінаў



таксама. Крамлёўцы глядзяць на ўсю гэтую еўрапейскую наменклатуру з ледзь прыхаванай пагардай. І сапраўды, хіба ж можа параўняцца, прыкладам, безгустоўна апранутая першая фрау Нямеччыны з бліскучым расейскім прэм’ерам-прэзідэнтам!? У маскоўскай “сям’і” палову еўрапейскай нерухомасці ўжо скуплена, а ў еўрапейчыкаў нейкая дробная карупцыя, нібы мышыная валтузня. Таму і служыць былы канцлер Германіі на расейскай “бензакалонцы”. Хіба толькі “друг Сільвіё” мог на роўных размаўляць з гэтай крамлёўскай алігархічнай братвой, але і той зляцеў – пакуль цягаўся па маладых дзеўках, гаспадарча-фінансавы крызіс сур’ёзна ляснуў. У Італіі то ўладу памяняць можна, а вось у Расеі – немагчыма. Таму і падладжваецца еўракратыя да маскоўскіх уладароў. Таму і “не цікавіцца” Беларуссю – маўляў, гэта тэрыторыя інтарэсаў нашага ўсходняга партнёра, а дражніць “расейскага мядзведзя” ні ў якім разе нельга, бо сабе даражэй абыдзецца. Больш таго – знаходзяцца яшчэ стратэгі-аналітыкі, якія пачынаюць вылучаць канцэпцыю дэмакратызацыі Беларусі праз Расею.

Што тут можна зацеміць. Гэтак жа кіраўнікі буйных еўрапейскіх дзяржаў міла прымалі і абдымалі Муамара Кадафі, супрацоўнічалі з яго рэжымам. А потым, калі джамахірыя пачала абрынацца, адразу кардынальна перамянілі сваё стаўленне. А чым лепшы той жа Пуцін за Кадафі? Тым, што пры яго ўладаранні менш людзей забіта? Дык яшчэ ж і сорак гадоў не прайшло, а памкненне кіраваць крамлёўскім “кааператывам” і адроджанай расейскай імперыяй пажыццёва яскрава прадэманстравана.

Вось такая, як казаў адзін каларытны персанаж, машынэрыя. Толькі, здаецца, колы гэтай машыны еўрапейскай ужо амаль не круцяцца. Таго і глядзі, што неўзабаве пойдзе юзам. А калі машына ідзе юзам – наступствы непрадказальныя.

Уладзімір Хільмановіч

## Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на снежань 2011 году

**2 сьнежня**

235 гадоў таму (1776) – У маёнтку Юркаўшчына (Мсьціслаўскі пав.) нарадзіўся Анёл Доўгірд, філёзаф, лёгік, педагог. Працаваў у Лідзе і Шчучыне.

**3 сьнежня**

220 гадоў таму (1791) – У в. Бялавічы (Івацэвіцкі р-н) нарадзіўся Міхал Гамаліцкі, беларускі лекар, педагог, гісторык. Вучыўся ў Жыровічах.

**6 сьнежня**

30 гадоў таму (1981) – У Маскве памёр Яўген Леашэня, вайсковец, беларускі краязнавец. Нараджэнец Слоніму.

**7 сьнежня**

505 гадоў таму (1506) – У Гародні вялікі князь ВКЛ Жыгімонт І Стары выдаў прывілей, які замацоўваў юрыдычныя нормы, запісаныя ў прывілеях асобным землям, валасьцям і гарадам ВКЛ.

**8 сьнежня**

85 гадоў таму (1926) – Памёр Кастусь Бялецкі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч. Нараджэнец мяст. Луна (Мастоўскі р-н).

**9 сьнежня**

120 гадоў таму (1891) – У Менску нарадзіўся Максім Багдановіч, беларускі паэт, перакладнік, крытык. У Гародню пераехаў з бацькамі ў год нараджэньня.

**10 сьнежня**

15 гадоў таму (1896) – У Вераскаве (Наваградзкі р-н) памёр Уладыслаў Брахоцкі, грамадзкі дзеяч, удзельнік паўстаньня 1863-64. Нараджэнец маёнтку Гаўя (Івейскі р-н).

**11 сьнежня**

135 гадоў таму (1876) – У в. Вішнева (Смургонскі р-н) нарадзіўся Мечыслаў Карловіч, кампазітар, дырыжор, сын мовазнаўца і этнографа Яна Карловіча.

20 гадоў таму (1991) – Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зацьвердзіў Палажэньне “Аб Дзяржаўным бела-чырвона-белым сьцягу Рэспублікі Беларусь.

**12 сьнежня**

425 гадоў таму (1586) – У Гародні памёр Стафан Баторы, вялікі князь ВКЛ, кароль Рэчы Паспалітай. Новым каралём абраны Жыгімонт ІІІ Ваза.

5 гадоў таму (2006) – Памерла Ніна Тарас, беларуская паэтка. Нараджэнка в. Запольле (Наваградзкі р-н).

**13 сьнежня**

185 гадоў таму (1826) – Памёр Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, беларускі вучоны, царкоўны дзеяч, літаратар. Нараджэнец в. Занкі (Сьвіслацкі р-н)

**14 сьнежня**

100 гадоў таму (1911) – У в. Церабостынь (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Аляксандар Калодка, грамадзкі дзеяч, правазнавец, публіцыст, вязень фашыстоўскіх канцлягераў, дзеяч беларускай эміграцыі (Аўстралія).

10 гадоў таму (2001) – Памёр Самсон Пярловіч, сябра Саюзу Вызваленьня Беларусі, беларускі паэт, вязень ГУЛАГу. Нараджэнец в. Католышы (Наваградзкі р-н). Пахаваны на могілках ля Наваградку.

**16 сьнежня**

110 гадоў таму (1901) – У в. Кубельнікі (Берастравіцкі р-н) нарадзіўся Мікалай Марцінчык, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, лекар, вязень савецкіх канцлягераў.

**17 сьнежня**

120 гадоў таму (1891) – На хутары Плавушка (Смургонскі р-н) нарадзіўся Андрэй Цікота, беларускі рэлігійны і грамадзка-культурны дзеяч, генэрал ордэну марыянаў.

**18 сьнежня**

240 гадоў таму (1771) – У Ляхавічах нарадзіўся Францішак Ксаверы Несялоўскі, удзельнік паўстаньняў 1794 (ваяваў на Гарадзеншчыне), 1830 гг. Меў родавы маёнтак у Варончы (Карэліцкі р-н).

**21 сьнежня**

30 гадоў таму (1981) – Памёр Міхась Забэйда-Суміцкі, беларускі сьпявак, педагог, дзеяч эміграцыі. Нараджэнец в. Несьцяровічы (Сьвіслацкі р-н). Пахаваны ў Празе на Альшанскіх могілках.

**22 сьнежня**

10 гадоў таму (2001) – У Менску памёр Уладыслаў Чарняўскі, беларускі каталіцкі сьвятар, перакладнік літургічных тэкстаў на беларускую мову. Пахаваны ў мяст. Вішнева (Валожынскі р-н) каля касьцёлу. Нараджэнец засьценку Амбружын (Ашмянскі р-н).

**23 сьнежня**

215 гадоў таму (1796) – У в. Вярховічы (Камянецкі р-н) нарадзіўся Віктар Гельтман, публіцыст, удзельнік паўстаньня 1830-31. Вучыўся ў Сьвіслачы, разам з братам Язэпам стварыў у 1819 у Сьвіслацкай гімназіі тайную патрыятычную арганізацыю.

**24 сьнежня**

250 гадоў таму (1761) – Нарадзіўся (Пазнаньскае ваяв., Польшча) Якуб Ясінскі, вайсковы і палітычны дзеяч, інжынэр, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1794.

**25 сьнежня**

Каляды (Божае Нараджэньне) паводле грыгарыянскага календара.

**27 сьнежня**

175 гадоў таму (1836) – У мяст. Жалудок (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Валеры Урублеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863 году.

105 гадоў таму (1906) – У Адэсе (Украіна) нарадзілася Іна Каханоўская (дзявочае Рытар), беларуская грамадзкая дзяячка, эмігрантка (ЗША). У час нямецкай акупацыі працавала настаўніцай у Ярэмічах (Карэліцкі р-н).

**30 сьнежня**

100 гадоў таму (1911) – У в. Марцянаўцы (Ваўкавыскі р-н) нарадзілася Лідзія Ялоўчык (у замужжы Лісок), беларуская пісьменьніца, паэтка, педагог.

**31 сьнежня**

95 гадоў таму (1916) – У Варшаве (?) памёр Казімер Альхімовіч, мастак, удзельнік паўстаньня 1863-64. Нараджэнец Дэмбрава (Шчучынскі р-н).

20 гадоў таму (1991) – У Гародні памёр Юры Астроўскі, беларускі біяхімік, акадэмік, грамадзкі дзеяч, пахаваны на могілках па прасп. Касманаўтаў. Працаваў у Слоніме і Гародні.

## Канавалава і Кавалёва прысудзілі да смяротнага пакарання

Вярхоўны суд Беларусі вынес прысуд па справе віцебскіх тэрарыстаў Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва. Яго агучыў першы намеснік старшыні Вярхоўнага суду Аляксандр Федарцоў. Канавалаў і Кавалёў прызнаныя віноўнымі ў датычнасці да выбуху на станцыі метро «Кастрычніцкая» ў красавіку 2011 году і у ліпені 2008 году ў Менску на Дзень Рэспублікі.

Тым часам, амаль 50 тысяч карыстальнікаў інтэрнэту выказаліся за тое, каб падазраваным смерцю падазраваных у выбухах пакінуць жыццё.

28 лістапада беларускія праваабаронцы распаўсюдзілі Заяву адносна патрабавання дзяржаўнага абвінаваўцы аб прымяненні смяротнага пакарання ў дачыненні да Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва

Задоўга да пачатку працэсу каля Дома правасуддзя на вуліцы Сямашка сабралася шмат журналістаў, праваабаронцаў і сведак, што ўдзельнічалі ў працэсе. Ля судовай залі пачалі глушыць мабільную сувязь.

У залю суда не пусьцілі фота- і відэажурналістаў. Вырак на 114 старонках быў зачытаны цалкам па просьбе пацярпелых па справе на працягу 4,5 гадзінаў.

Суд устанавіў, што Канавалаў ажыцьцявіў акт тэрарызму 11 красавіка 2011 году ў Менску, здабыўшы выбуховае прыстасаваньне ў Віцебску. Кавалёў разам з Канавалавым даставіў выбуховае прыстасаваньне на здымную кватэру, і ажыцьцяўляў пасобніцтва Канавалаву ў прывядзеньні прыстасаваньня ў баявы стан. Канавалаў прызнаны вінаватым у тым, што прывёз прыстасаваньне ў мэтро і зьдзейсьніў выбуху.

Судзьдзя зазначыў, што Кавалёў дакладна ведаў пра гэтыя дзеяньні Канавалава і не паведаміў пра гэта кампэтэнтным органам.

Суд прысудзіў Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва да смяротнага пакарання.

Вырак Канавалаву і Кавалёву — сьмяротнае пакараньне

## Алесь Бяляцкі перадае ўсім словы падзякі і кажа: “Ня бойцеся!”

Ад асуджанага да чатырох з паловаў гадоў пазбаўлення волі Алеся Бяляцкага прыйшоў ліст, напісаны праваабаронцам 30 лістапада ўжо пасля вынясення прысуду, але яшчэ да пераводу з турмы на Валадарскага ў Жодзіна. Пасля судовага працэсу ён паціху пачаў вяртацца да сваіх звычайных заняткаў – ангельскай мовы, чытання і адпісвання на лісты, якіх без адказу накапілася даволі шмат. Пачувае сябе палівязень даволі спакойна, чаго моцна жадае і ўсім сваім калегам. Алесь упэўнены, што той бруд, які вылілі на яго афіцыйныя СМІ, сплыў і не запэцкаў яго, а вось магутная падтрымка розных знаёмых і незнаёмых людзей моцна падтрымлівала: “Такое адчуванне, што гэты суд быў патрэбны, каб спраўдзіць і праверыць – ці тое мы рабілі ўсе гэтыя 15 гадоў. А на 10 снежня мне для ўсіх хочацца паўтарыць, для ўсіх: “Ня бойцеся!” Гэта тое, што сказаў у 80-я папа Ян Павал ІІ, калі прыехаў у камуністычную Польшчу. Больш ён нічога тады не сказаў, але і гэтага хапіла”. Таксама Алесь Бяляцкі піша, што рыхтуецца да этапу, а паколькі Беларусь маленькая краіна, то далёка не ўвязуць. Палітвязень шле ўсім прыхільнікам гарачае прывітанне і падзяку. “У мяне такое адчуванне, асабліва пасля таго, як на судзе шмат каго пабачыў, што я ўвесь гэты час быў з вамі…”



Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
лістапад 2011 году
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

